Народная Воля 16 КРАСАВІКА 1997 г.

*Литва*

## Литва выполнит рекомендации Международного жюри безопасности по Игналинской атомной электростанции

Премьер-министр Гедиминас Вагнорюс на встрече с членами Международного жюри безопасности Игналинской (атомной электростанции (ИАЭС) заверил о безусловном выполнении Литвой их рекомендаций.

Как сообщил Интерфаксу генеральный директор ИАЭС Виктор Шевалдин, после изучения состояния Игналинской АЭС авторитетные эксперты из 7-ми стран мира, входящие в состав жюри, внесли на рассмотрение литовского правительства около 70-ти предложений, осуществление которых должно существенно укрепить безопасность станции.

Он подчеркнул, что некоторые предложения жюри безопасности носят "категоричный и безусловный" характер. Без их выполнения, по словам В.Шевалдина, не будет разрешен запуск остановленного на плановый ремонт первого энергоблока станции, который планируется осуществить в июле.

Директор Игналинской АЭС отметил, что выполнение неотложных рекомендаций по укреплению безопасности станции займет около трех лет и обойдется в сумму 125 млн. долларов. Он также сообщил, что финансирование программы укрепления безопасности станции будет осуществляться за счет собственных средств ИАЭС, гранта Европейского банка реконструкции и развития и помощи стран-доноров. Предполагается, что западные страны выделят на эти цели около 25 млн. долларов.

*Латвия*

## Глава канцелярии Улманиса критикует министра благосостояния, считающего "несвоевременным" менять закон о пенсиях

Глава канцелярии президента Латвии Ивар Миллерс не согласен с мнением министра благосостояния республики Владимира Макарова, который высказывается против внесения изменений в закон о государственных пенсиях.

С инициативой внесения поправок в пенсионное законодательство Латвии на днях выступил президент Гунтис Улманис. Он, в частности, предложил выровнять положение работающих в настоящее время пенсионеров и лиц, выходящих на пенсию; а также повысить пенсии тех лиц, у которых при выходе в настоящее время на пенсию очень мала зарплата для страховых выплат.

В.Макаров, в свою очередь, считает, что сейчас не следует менять закон, поскольку он уже начал действовать, и внесение поправок "может вызвать социальное напряжение и волнение в обществе".

Глава президентской канцелярии назвал "опрометчивым" такое заявление министра, подчеркнув "вероятную незаинтересованность" последнего в улучшении ситуации с выплатами пенсий и нежелание видеть реальное положение дел в этой социальной сфере общества.

В настоящее время закон о пенсиях предусматривает, что предоставляемые в этом году пенсии рассчитываются с учетом заработной платы прошлого года, трудового стажа и возраста ухода на пенсию. Месячный размер пенсий колеблется от очень маленьких, в несколько латов, и до превышающих тысячу латов.

*Эстония*

## Премьер считает повышение цен на электроэнергию "вынужденным шагом"

"Непопулярным, но неизбежным шагом" назвал премьер Март Сииманн решение правительства повысить в республике с мая на треть цены на электроэнергию.

На пресс-конференции в Таллине глава Кабинета подчеркнул, что продолжать продажу электроэнергии ниже себестоимости уже невозможно, однако этот шаг, по его утверждению, не приведет к общему росту цен. Сославшись на данные экспертов, премьер предполагает, что цены повысятся в среднем на 1 процент.

"Если бы повышение цен было задержано на год, то это могло бы привести к тяжелым социальным последствиям",— считает М.Сииманн.

Премьер заверил, что средства, которые будут поступать в бюджет в связи с повышением цены за потребление электроэнергии, пойдут на покрытие расходов и обновление необходимого оборудования.

По утверждению М.Сииманна, правительство в настоящее время изыскивает возможности оказания поддержки малообеспеченным слоям населения в связи повышением цен на электроэнергию.

Справка Интерфакса: Решением правительства с 1 мая и до конца года средняя цена электроэнергии составит 49 центов за один киловатт-час без налога с оборота. А с 1 января 1998 года цена повысится до 51-го. Основной тариф для бытового потребителя будет с 1 мая и до конца года 60 центов за киловатт-час вместе с налогом с оборота, после 1 января — 65 центов за киловатт-час.

До сих пор основной тариф для бытового потребителя равнялся 45-ти центам и для промышленного сектора в среднем — 45,4 цента.

*Российская Федерация*

## Ельцин поедет в Париж только в случае готовности документа, подписанного Россией и НАТО

Поездка в Париж в мае может появиться в рабочем графике президента Бориса Ельцина только в одном случае — если к тому времени будет готов документ между Россией и НАТО, снимающий озабоченности Москвы в связи с планами расширения Североатлантического альянса.

Об этом заявил в интервью Интерфаксу пресс- секретарь главы государства Сергей Ястржембский.

По его словам, готовность такого документа, который должен быть подписан на уровне глав государств Россией и 16-ю странами НАТО, — "непременное условие" для визита президента Ельцина во французскую столицу.

Накануне, после переговоров в Париже, глава российского МИД Евгений Примаков сообщил, что президент Франции Жак Ширак предложил, чтобы подписание документа РФ—НАТО, если он будет готов, состоялось во французской столице 27 мая.

"Я имел полномочия от президента России заявить: если документ к тому времени будет подготовлен, то Б.Ельцин приедет в Париж, чтобы подписать его", — указал Е.Примаков.

*Украина*

## Глава администрации Кучмы критикует крымский парламент за "правовой нигилизм"

Председатель Верховного Совета Крыма Анатолий Гриценко официально не обращался к президенту Украины с просьбой о согласовании отставки Аркадия Демиденко с поста председателя крымского правительства, а также назначения на эту должность Анатолия Франчука.

Об этом заявил Интерфаксу глава Администрации президента Украины Евгений Кушнарев.

Он подчеркнул, что назначение и освобождение с должности главы правительства является прерогативой Верховного Совета, однако, согласно Конституции, "это должно проходить по специальной процедуре, предусматривающей согласование с президентом". "Эта процедура не была выдержана", — заявил Е.Кушнарев.

К сведению: Верховный Совет Крыма на дневном заседании 9 апреля отправил в отставку с поста председателя Совмина автономии Аркадия Демиденко. Исполняющим обязанности председателя Совмина до получения согласия президента Украины был назначен Анатолий Франчук. Он приходится свояком Л.Кучме: его сын женат на дочери президента.

В тот же день спикер крымского парламента А.Гриценко сообщил депутатам на сессии о полученном им в телефонном разговоре с президентом Украины согласии Леонида Кучмы на назначение А.Франчука главой правительства автономии, после чего тот был официально утвержден в новой должности.

**По материалам Интерфакса.**

Праект Статута Саюза Беларусі і Расіі парафіраваны 2 красавіка 1997 г. у г. Маскве Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Лукашэнкам А.Р. і Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Ельцыным Б.М.

У адпаведнасці з Мемарандумам аб узаемаразуменні паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй па пытанню аб дапрацоўцы і прыняцці Статута Саюза Беларусі і Расіі, падпісаным прэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі 2 красавіка 1997 г. у г.Маскве, праект Статута Саюза Беларусі і Расіі выносіцца на абмеркаванне грамадзян Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, якое будзе праходзіць з дня апублікавання праекта да 15 мая 1997 года.

**Праект**

# СТАТУТ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя (якія далей называюцца — дзяржавы-ўдзельніцы), кіруючыся воляй народаў да згуртавання дзвюх дзяржаў, утварылі Саюз Беларусі і Расіі.

***Глава I***

***Саюз, прынцыпы і мэты***

**Артыкул 1**

Дзяржавы-ўдзельніцы, якія ўтварылі Саюз Беларусі і Расіі (які далей называецца — Саюз), дзейнічаюць на аснове гэтага Статута, які з'яўляецца неад'емнай часткай Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года.

**Артыкул 2**

Устанаўліваецца грамадзянства Саюза. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь і кожны грамадзянін Расійскай Федэрацыі з'яўляецца адначасова грамадзянінам Саюза.

**Артыкул 3**

Саюз грунтуецца на прынцыпах суверэннай роўнасці яго ўдзельнікаў, дэмакратыі і павагі правоў чалавека, супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі, добраахвотнасці, добрасумленнага выканання ўзаемных абавязацельстваў і на іншых агульнапрызнаных прынцыпах і нормах міжнароднага права.

Перспектыва развіцця Саюза накіравана на паслядоўны рух да добраахвотнага аб'яднання дзвюх дзяржаў на аснове свабоднага волевыяўлення іх народаў, з выкананнем Канстытуцый дзяржаў-удзельніц, зыходзячы з суверэннай роўнасці яго членаў, агульнапрызнаных нормаў і прынцыпаў міжнароднага права.

**Артыкул 4**

У рамках паўнамоцтваў, прадастаўленых гэтым Статутам, Саюз валодае міжнароднай правасуб'ектнасцю.

**Артыкул 5**

Прававой асновай дзейнасці Саюза з'яўляюцца Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года, гэты Статут, Дагавор аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1996 года, іншыя двухбаковыя дагаворы паміж дзяржавамі-ўдзельніцамі, а таксама нарматыўныя прававыя акты органаў Саюза, прынятыя ў межах іх кампетэнцыі.

Раней прынятыя органамі Супольніцтва Беларусі і Расіі нарматыўныя прававыя акты працягваюць дзейнічаць у частцы, якая не супярэчыць гэтаму Статуту.

**Артыкул 6**

Мэтамі Саюза з'яўляюцца:

умацаванне адносін братэрства, дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, ваеннай, навуковай, культурнай і іншых галінах;

павышэнне ўзроўню жыцця народаў і стварэнне спрыяльных умоў для ўсебаковага гарманічнага развіцця асобы;

устойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё дзяржаў — удзельніц Саюза на аснове аб'яднання іх матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялаў, выкарыстання рынкавых механізмаў функцыяніравання эканомікі;

збліжэнне нацыянальных прававых сістэм, фарміраванне прававой сістэмы Саюза;

забеспячэнне бяспекі і падтрыманне высокай абараназдольнасці, сумесная барацьба са злачыннасцю;

садзейнічанне забеспячэнню агульнаеўрапейскай бяспекі і развіццю ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў Еўропе і свеце.

**Артыкул 7**

Удзельнікам Саюза можа стаць дзяржава, якая з'яўляецца суб'ектам міжнароднага права, якая падзяляе мэты і прынцыпы Саюза і прымае на сябе абавязкі, прадугледжаныя Дагаворам аб Саюзе Беларусі і Расіі і гэтым Статутам. Далучэнне да Саюза ажыццяўляецца са згоды дзяржаў-удзельніц.

Дзяржава, якая далучылася да Саюза, абавязана выконваць раней прынятыя органамі Саюза рашэнні без якіх-небудзь агаворак.

***Глава II***

***Задачы Саюза***

**Артыкул 8**

У палітычнай сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

узгадненне пазіцый і дзеянняў пры вырашэнні агульнапалітычных праблем шляхам кансультацый і абмену інфармацыяй;

выпрацоўка агульных пазіцый па міжнародных пытаннях, якія маюць узаемны інтарэс;

ажыццяўленне ўзгодненых мер па забеспячэнню міжнароднага міру і бяспекі, у тым ліку шляхам дасягнення міжнародных дагаворанасцей аб абмежаванні і скарачэнні ўзбраенняў і ваенных расходаў, ліквідацыі ядзернай і іншых відаў зброі масавага знішчэння;

садзейнічанне развіццю дэмакратыі, усеагульнай павазе і ажыццяўленню правоў і асноўных свабод чалавека ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права.

**Артыкул 9**

У эканамічнай сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

забеспячэнне ўстойлівага эканамічнага развіцця дзяржаў-удзельніц ва ўмовах сацыяльна арыентаванага рынку;

стварэнне адзінай эканамічнай прасторы, роўных умоў і гарантый дзейнасці суб'ектаў гаспадарання дзяржаў-удзельніц;

фарміраванне і рэалізацыя ўзгодненай праграмы рынкавых рэформаў з улікам асаблівасцей эканамічнага развіцця кожнай дзяржавы-ўдзельніцы і прынцыпу сацыяльнай справядлівасці;

стварэнне і развіццё агульнай інфраструктуры, і ў першую чаргу аб'яднаных транспартнай, энергетычнай сістэм, сістэмы сувязі, адзінай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы;

функцыяніраванне уніфікаваных грашова-крэдытных і бюджэтных сістэм, сістэмы падаткаў, стварэнне неабходных умоў для ўвядзення адзінай валюты;

прымяненне ў адносінах з трэцімі краінамі аднолькавага гандлёвага рэжыму, агульных мытных тарыфаў, мер нетарыфнага рэгулявання знешняга гандлю, развіццё ўзаемнага гандлю і эфектыўнае функцыяніраванне адзінай мытнай прасторы;

узгодненае развіццё, размяшчэнне і выкарыстанне вытворчых магутнасцей;

забеспячэнне на тэрыторыі кожнай з дзяржаў-удзельніц грамадзянам і юрыдычным асобам іншай дзяржавы-ўдзельніцы нацыянальнага рэжыму ў галіне набыцця маёмасці, валодання, карыстання і распараджэння ёю.

**Артыкул 10**

У сацыяльнай сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

пераход на адзіныя стандарты сацыяльнай абароны, паступовае выраўноўванне ўзроўню жыцця насельніцтва дзяржаў-удзельніц, аплаты працы, пенсіённага забеспячэння, памераў дапамог і льгот ветэранам вайны, узброеных сіл і працы, інвалідам і малазабяспечаным сем'ям;

забеспячэнне роўных правоў грамадзян дзяржаў-удзельніц пры атрыманні адукацыі, медыцынскай дапамогі, у працаўладкаванні, аплаце працы, прадастаўленні іншых сацыяльных гарантый;

устанаўленне адзіных нормаў у галіне аховы працы, сацыяльнага страхавання, вытворчай і сацыяльнай гігіены;

стварэнне агульнай інфармацыйнай базы па пытаннях занятасці насельніцтва і наяўнасці працоўных вакансій;

садзейнічанне развіццю адукацыі і ўзаемаўзбагачэнню культуры, ажыццяўленню роўных правоў і свабод выказвання, захаванне і развіццё этнічнай, культурнай і моўнай самабытнасці народаў.

**Артыкул 11**

У сферы забеспячэння бяспекі задачамі Саюза з'яўляюцца:

прыняцце ў выпадку неабходнасці адэкватных сумесных мер па прадухіленню пагрозы суверэнітэту і незалежнасці кожнай з дзяржаў-удзельніц;

каардынацыя дзейнасці дзяржаў-удзельніц у галіне ваеннага будаўніцтва і развіцця іх узброеных сіл, сумеснае выкарыстанне ваеннай інфраструктуры і прыняцце іншых адэкватных мер з улікам інтарэсаў дзяржаў-удзельніц для падтрымання абараназдольнасці дзяржаў-удзельніц і Саюза ў цэлым;

распрацоўка і размяшчэнне сумеснага абароннага заказу, забеспячэнне пастаўкі і рэалізацыі на яго аснове ўзбраення і ваеннай тэхнікі, стварэнне аб'яднанай сістэмы тэхнічнага забеспячэння ўзброеных сіл дзяржаў-удзельніц;

узаемадзеянне ў забеспячэнні аховы граніц Саюза;

барацьба з карупцыяй, тэрарызмам і іншымі відамі злачыннасці.

**Артыкул 12**

У прававой сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

развіццё нарматыўна-прававой базы ў мэтах забеспячэння далейшай інтэграцыі дзяржаў-удзельніц;

уніфікацыя і ўзгодненае развіццё заканадаўства дзяржаў-удзельніц;

супрацоўніцтва ў галіне кадыфікацыі і сістэматызацыі нарматыўна-прававых актаў;

узаемная юрыдычная дапамога, супрацоўніцтва ў стварэнні і развіцці інфармацыйных баз даных у розных галінах права.

**Артыкул 13**

Палажэнні артыкулаў 8, 9, 10, 11 і 12 гэтага Статута ажыццяўляюцца ў кантэксце палажэнняў, што датычаць паўнамоцтваў і прадметаў ведання, як гэта прадугледжана гэтым Статутам.

***Глава III***

***Паўнамоцтвы і прадметы ведання***

**Артыкул 14**

Да ведання Саюза адносяцца:

а) рэалізацыя і абарона правоў грамадзян дзяржаў-удзельніц, якімі яны надзяляюцца як грамадзяне Саюза;

б) забеспячэнне роўнасці правоў грамадзян Саюза пры атрыманні ўсіх відаў адукацыі і медыцынскай дапамогі, у працаўладкаванні, аплаце працы і іншых галінах;

в) развіццё прававой сістэмы Саюза, у тым ліку прыняцце нарматыўных прававых актаў;

г) рэгуляванне дзейнасці адзіных энергетычнай, транспартнай сістэм, сістэмы сувязі;

д) забеспячэнне развіцця ўзаемнага гандлю, свабоднага перамяшчэння тавараў, паслуг, капіталаў, рабочай сілы ў межах мытнай тэрыторыі Саюза;

е) правядзенне адзінай мытнай палітыкі, уключаючы забеспячэнне адзінства кіравання мытнай справай на адзінай мытнай тэрыторыі;

ж) забеспячэнне спрыяльных умоў для функцыяніравання адзінай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы, правядзення ўзгодненай структурнай палітыкі, рэалізацыі сумесных навуковых і вытворчых праграм, стварэння і дзейнасці сумесных транснацыянальных кампаній;

з) кіраванне ўласнасцю Саюза;

і) уніфікацыя валютнага рэгулявання з мэтай паэтапнага пераходу да адзінай валюты;

к) увядзенне адзіных стандартаў, эталонаў, метрычных сістэм, вядзенне адзінай статыстыкі;

л) зацвярджэнне бюджэту Саюза;

м) выпрацоўка і стварэнне механізма кантролю за выкананнем прынятых рашэнняў, уключаючы выкананне бюджэту;

н) садзейнічанне ўзгодненаму развіццю заканадаўства дзяржаў-удзельніц;

о) зацвярджэнне сімволікі Саюза.

Дзяржавы-ўдзельніцы могуць прадастаўляць Саюзу таксама іншыя паўнамоцтвы і прадметы ведання ў парадку, прадугледжаным артыкулам 36 гэтага Статута.

**Артыкул 15**

Да прадметаў сумеснага ведання Саюза і дзяржаў-удзельніц адносяцца:

а) узгадненне асноў палітыкі Саюза, рэалізацыя саюзных праграм у эканамічнай, сацыяльнай, экалагічнай і культурнай галінах;

б) каардынацыя знешняй палітыкі ў сферы ўзаемных інтарэсаў;

в) каардынацыя знешнеэканамічнай палітыкі, у тым ліку ў адносінах да тавараў і паслуг, якія перамяшчаюцца праз мытную граніцу саюза, уключаючы ліцэнзаванне, рэгуляванне цэн і іншыя меры нетарыфнага рэгулявання, стаўкі і механізм прымянення мытных і іншых пошлін, а таксама падаткаў, звязаных са знешнеэканамічнай дзейнасцю;

г) забеспячэнне калектыўнай бяспекі дзяржаў-удзельніц;

д) узаемадзеянне ў забеспячэнні тэрытарыяльнай недатыкальнасці дзяржаў-удзельніц і ахове граніцы Саюза;

е) забеспячэнне барацьбы з карупцыяй, тэрарызмам і іншым відамі злачыннасці;

ж) распрацоўка і рэалізацыя ўзгодненых мер па забеспячэнню занятасці насельніцтва;

з) фарміраванне нарматыўна-прававой базы Саюза, узгодненых прававых асноў эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця, уніфікацыя заканадаўства дзяржаў-удзельніц;

і) стварэнне і развіццё уніфікаваных грашова-крэдытных, бюджэтных і валютных сістэм, фінансавых рынкаў, узгадненне асноў антыманапольнага, падатковага і інвестыцыйнага заканадаўства;

к) выпрацоўка ўзгодненых стандартаў сацыяльнай абароны, умоў пенсіённага забеспячэння, узроўняў сацыяльных гарантый у галіне працы, занятасці, аховы працы, сацыяльнага страхавання, пенсіённага забеспячэння, сацыяльнай абароны, вытворчай і сацыяльнай гігіены;

л) правядзенне ўзгодненай палітыкі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, гідраметэаралогіі, забеспячэнне экалагічнай бяспекі, ліквідацыя вынікаў стыхійных бедстваў і аварый, перш за ўсё аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**Артыкул 16**

Гэты Статут не закранае правоў і абавязацельстваў дзяржаў-удзельніц, прынятых у рамках Садружнасці Незалежных Дзяржаў, а таксама па міжнародных дагаворах.

***Глава IV***

***Грамадзянства Саюза***

**Артыкул 17**

Наяўнасць у грамадзяніна Рэспублікі Беларусь і грамадзяніна Расійскай Федэрацыі грамадзянства Саюза не змяншае яго правоў і свабод і не вызваляе ад абавязкаў, што вынікаюць з грамадзянства адпаведнай дзяржавы-ўдзельніцы.

Разам з правамі і абавязкамі, што вынікаюць з грамадзянства адпаведнай дзяржавы, грамадзяне Саюза надзяляюцца правамі і выконваюць абавязкі, звязаныя з грамадзянствам Саюза.

Грамадзянін Саюза мае правы:

а) на свабоднае перамяшчэнне і пастаяннае пражыванне ў межах тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і тэрыторыі Расійскай Федэрацыі з выкананнем правілаў, устаноўленых законамі дзяржаў-удзельніц адносна асобных раёнаў і мясцовасцей;

б) на ўдзел у кіраванні справамі Саюза як непасрэдна, так і праз сваіх прадстаўнікоў;

в) на абарону на тэрыторыі трэцяй краіны, дзе няма прадстаўніцтва дзяржавы-ўдзельніцы, грамадзянінам якой ён з'яўляецца, з боку дыпламатычных прадстаўніцтваў або консульскіх устаноў другой дзяржавы-ўдзельніцы на тых жа ўмовах, што і грамадзяне гэтай дзяржавы;

г) на валоданне, карыстанне і распараджэнне маёмасцю на тэрыторыі другой дзяржавы-ўдзельніцы на тых жа ўмовах, што і грамадзяне гэтай дзяржавы.

Грамадзянін Саюза, які пастаянна пражывае ў другой дзяржаве-ўдзельніцы, мае права выбіраць і быць выбраным у органы мясцовага самакіравання на тэрыторыі гэтай дзяржавы.

Грамадзянам дзяржаў-удзельніц па іх жаданню выдаецца асобны дакумент, які засведчвае грамадзянства Саюза.

***Глава V***

***Органы Саюза***

**Артыкул 18**

1. Для рэалізацыі задач Саюза дзяржавы-ўдзельніцы ствараюць на парытэтных асновах Вышэйшы Савет, Парламенцкі Сход, Выканаўчы Камітэт і, у выпадку неабходнасці, іншыя органы Саюза.

2. Рашэнні органаў Саюза прымаюцца ў межах іх кампетэнцыі і без урону для канстытуцыйных прынцыпаў дзяржаў-удзельніц.

Пры неабходнасці органы дзяржаўнай улады дзяржаў-удзельніц прыводзяць свае акты ў адпаведнасць з рашэннямі органаў Саюза або выдаюць акты, якія забяспечваюць рэалізацыю гэтых рашэнняў.

***Глава VI***

***Вышэйшы Савет***

**Артыкул 19**

Вышэйшым органам Саюза з'яўляецца Вышэйшы Савет, у які ўваходзяць кіраўнікі дзяржаў, кіраўнікі ўрадаў, кіраўнікі палат парламентаў дзяржаў-удзельніц, а таксама старшыня Выканаўчага Камітэта.

Вышэйшы Савет вырашае любыя пытанні, аднесеныя гэтым Статутам да прадметаў ведання Саюза, а таксама тыя, што датычаць паўнамоцтваў Саюза па прадметах сумеснага ведання Саюза і дзяржаў-удзельніц.

Вышэйшы Савет:

вырашае важнейшыя пытанні развіцця Саюза;

разглядае пытанні, што закранаюць асноўныя правы і свабоды грамадзян Саюза;

засноўвае органы Саюза, вызначае іх месцазнаходжанне і ўмовы іх знаходжання, накіроўвае іх дзейнасць;

зацвярджае бюджэт Саюза;

забяспечвае ўзаемадзеянне органаў Саюза паміж сабой і з органамі дзяржаўнай улады дзяржаў-удзельніц;

прымае рашэнні па пытаннях забеспячэння бяспекі дзяржаў-удзельніц, іх калектыўнай абароны ад замахаў звонку, аховы граніц Саюза, ваеннага будаўніцтва, барацьбы са злачыннасцю;

не радзей чым раз у год заслухоўвае справаздачу Выканаўчага Камітэта аб рэалізацыі прынятых органамі Саюза рашэнняў.

Рашэнні Вышэйшага Савета прымаюцца на аснове аднагалоснасці па прынцыпу "адна дзяржава — адзін голас".

Работа Вышэйшага Савета вядзецца на аснове зацверджаных ім Статута і Правіл працэдуры Вышэйшага Савета.

**Артыкул 20**

Старшыня Вышэйшага Савета выбіраецца Вышэйшым Саветам з ліку прэзідэнтаў дзяржаў-удзельніц на ратацыйнай аснове тэрмінам на два гады, калі не прынята іншага рашэння.

Старшыня Вышэйшага Савета:

арганізуе і кіруе работай Савета;

старшынствуе на яго пасяджэннях;

прадстаўляе Саюз у адносінах з дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі;

вядзе ад імя Саюза міжнародныя перагаворы, заключае ад імя Саюза са згоды Вышэйшага Савета і ў межах прадастаўленых Вышэйшым Саветам паўнамоцтваў міжнародныя дагаворы;

падпісвае рашэнні, прынятыя Вышэйшым Саветам.

***Глава VII***

***Парламенцкі Сход***

**Артыкул 21**

Парламенцкі Сход з'яўляецца прадстаўнічым органам Саюза.

Парламенцкі Сход складаецца з дэпутацый, якія дэлегуюцца адпаведна Нацыянальным Сходам Рэспублікі Беларусь і Федэральным Сходам Расійскай Федэрацыі. Кожная парламенцкая дэпутацыя ўключае роўную колькасць прадстаўнікоў.

Дэлегаванне прадстаўнікоў у склад Парламенцкага Сходу, а таксама іх адкліканне ажыццяўляюцца парламентамі дзяржаў-удзельніц у адпаведнасці з іх працэдурамі. Тэрмін дзеяння і парадак спынення паўнамоцтваў парламенцкай дэпутацыі вызначаюцца адпаведным парламентам самастойна.

**Артыкул 22**

Парламенцкі Сход:

а) вырашае пытанні развіцця нарматыўна-прававой базы інтэграцыі дзяржаў-удзельніц у палітычнай, прававой, эканамічнай, сацыяльнай, гуманітарнай і іншых галінах;

б) прымае прававыя акты, якія маюць статус заканадаўчай рэкамендацыі Саюза і падлягаюць першачарговаму разгляду і прыняццю ва ўстаноўленым парадку парламентамі дзяржаў-удзельніц у мэтах уніфікацыі іх заканадаўстваў;

в) уносіць прапановы па пытаннях развіцця нарматыўна-прававой базы Саюза ў органы дзяржаў-удзельніц, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы, і ў Вышэйшы Савет;

г) садзейнічае уніфікацыі заканадаўства дзяржаў-удзельніц;

д) забяспечвае ўзаемадзеянне парламентаў дзяржаў-удзельніц па пытаннях, якія маюць узаемны інтарэс;

е) удзельнічае ў фарміраванні органаў Саюза;

ж) разглядае праект бюджэту Саюза;

з) ажыццяўляе кантрольныя функцыі ў межах, устаноўленых гэтым Статутам;

і) заслухоўвае пасланні Вышэйшага Савета аб асноўных напрамках развіцця Саюза;

к) зацвярджае міжнародныя дагаворы, заключаныя ад імя Саюза;

л) садзейнічае абмену прававой інфармацыяй, удзельнічае ў стварэнні адзінай інфармацыйна-прававой сістэмы Саюза;

м) заключае пагадненні аб супрацоўніцтве з парламентамі замежных дзяржаў і міжнароднымі парламенцкімі арганізацыямі;

н) ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з гэтым Статутам.

**Артыкул 23**

Парламенцкі Сход збіраецца на сесіі.

Пасяджэнні Парламенцкага Сходу правамоцныя, калі на іх прысутнічае не менш як дзве трэці ад кожнай дэпутацыі.

Работа Парламенцкага Сходу вядзецца на аснове Рэгламенту.

Парламенцкі Сход ўтварае з ліку сваіх членаў пастаянныя і часовыя камісіі, якія ўзаемадзейнічаюць па пытаннях свайго ведання з адпаведнымі камітэтамі і камісіямі палат парламентаў дзяржаў-удзельніц.

Старшыня Парламенцкага Сходу выбіраецца на ратацыйнай аснове Парламенцкім Сходам з ліку кіраўнікоў палат парламентаў дзяржаў-удзельніц тэрмінам на два гады.

Старшыня Парламенцкага Сходу і яго першы намеснік не могуць быць грамадзянамі адной дзяржавы-ўдзельніцы.

Старшыня Парламенцкага Сходу, яго намеснікі і кіраўнікі пастаянных камісій утвараюць Савет Парламенцкага Сходу.

Забеспячэнне дзейнасці Парламенцкага Сходу ажыццяўляе пастаянна дзеючы апарат — Сакратарыят Парламенцкага Сходу на чале з адказным сакратаром, які зацвярджаецца сесіяй Парламенцкага Сходу.

**Артыкул 24**

Правам унясення праектаў прававых актаў у Парламенцкі Сход валодаюць: органы Саюза, кіраўнікі дзяржаў, парламенты, урады дзяржаў-удзельніц, дэпутацыі Беларусі і Расіі, а таксама групы дэпутатаў колькасцю не менш як адна пятая ад агульнай колькасці дэпутатаў Парламенцкага Сходу.

Рашэнне Парламенцкага Сходу лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала не менш як палова ад агульнага складу кожнай дэпутацыі.

**Артыкул 25**

Дзяржавы-ўдзельніцы ствараюць умовы для пераўтварэння Парламенцкага Сходу ў прадстаўнічы і заканадаўчы орган Саюза, які выбіраецца непасрэдна грамадзянамі Саюза.

***Глава VIII***

***Выканаўчы Камітэт***

**Артыкул 26**

Выканаўчы Камітэт з'яўляецца пастаянна дзеючым выканаўчым органам Саюза.

Выканаўчы Камітэт фарміруецца Вышэйшым Саветам.

У склад Выканаўчага Камітэта ўваходзіць роўная колькасць прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц. Персанальны склад прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц у Выканаўчым Камітэце зацвярджаецца кіраўніком адпаведнай дзяржавы.

Старшыня і намеснікі Старшыні Выканаўчага Камітэта назначаюцца Вышэйшым Саветам.

**Артыкул 27**

Функцыі Выканаўчага Камітэта і парадак яго дзейнасці вызначаюцца палажэннем, якое зацвярджаецца Вышэйшым Саветам па прапанове Выканаўчага Камітэта.

Рашэнні Выканаўчага Камітэта прымаюцца на аснове аднагалоснасці па прынцыпу "адна дзяржава — адзін голас".

Выканаўчы Камітэт мае права ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць рашэнні прамога дзеяння, абавязковыя для ўсіх галіновых і іншых органаў Саюза, а таксама, з захаваннем патрабаванняў заканадаўства дзяржаў-удзельніц, для іх органаў выканаўчай улады.

Выканаўчы Камітэт штогод прадстаўляе Вышэйшаму Савету і Парламенцкаму Сходу справаздачы аб ходзе выканання праектаў і праграм Саюза.

Дзеянне рашэння Выканаўчага Камітэта можа быць прыпынена або адменена Вышэйшым Саветам.

Выканаўчы Камітэт мае апарат, колькасць якога ўстанаўліваецца Вышэйшым Саветам. Кіраўніком апарату з'яўляецца кіраўнік спраў Выканаўчага Камітэта, які назначаецца Вышэйшым Саветам.

**Артыкул 28**

Для выканання функцый, прадугледжаных гэтым Статутам, рашэннямі Вышэйшага Савета на падставе прапаноў Выканаўчага Камітэта могуць засноўвацца органы Саюза галіновага і іншага характару, а таксама арганізацыі. Кожны з гэтых органаў дзейнічае на падставе адпаведнага палажэння аб ім, якое зацвярджаецца Выканаўчым Камітэтам.

Названыя органы ствараюцца на парытэтнай аснове і ажыццяўляюць сваю дзейнасць на прынцыпах калегіяльнасці.

**Артыкул 29**

Выканаўчыя органы дзяржаў-удзельніц, зыходзячы з рашэнняў органаў, упамянутых у артыкуле 28 гэтага Статута, прымаюць меры, якія забяспечваюць рэалізацыю названых рашэнняў ва ўстаноўленыя тэрміны.

***Глава IX***

***Фінансы і бюджэт***

**Артыкул 30**

1. Бюджэт Саюза фарміруецца ў мэтах фінансавання сумесных праграм, праектаў і мерапрыемстваў, а таксама ўтрымання органаў Саюза.

Выканаўчы Камітэт распрацоўвае і прадстаўляе бюджэт на зацвярджэнне Вышэйшага Савета, кантралюе яго выкананне.

2. Даходы бюджэту Саюза фарміруюцца за кошт:

а) адлічэнняў, прадугледжваемых дзяржаўнымі бюджэтамі дзяржаў-удзельніц, па нормах і ў сумах, якія зацвярджаюцца парламентамі дзяржаў-удзельніц;

б) паступленняў ад уласнасці Саюза;

в) даходаў ад размяшчэння часова свабодных сродкаў, што знаходзяцца ў распараджэнні органаў Саюза, на дэпазітных рахунках банкаў, а таксама ад перадачы сродкаў у давернае кіраванне ў адпаведнасці з дагаворамі;

г) іншых паступленняў.

Накіраванні сродкаў бюджэту Саюза па відах расходаў зацвярджаюцца Вышэйшым Саветам па ўзгадненню з Парламенцкім Сходам.

3. Утрыманне органаў Саюза фінансуецца за кошт бюджэту Саюза, калі іншае не ўстаноўлена рашэннямі Вышэйшага Савета.

Пытанні фінансава-гаспадарчай дзейнасці органаў Саюза рэгулююцца Выканаўчым Камітэтам у адпаведнасці з нарматыўна-прававымі актамі Саюза.

Дзяржавы-ўдзельніцы самастойна нясуць расходы, звязаныя з ажыццяўленнем мерапрыемстваў, не прадугледжаных бюджэтам Саюза.

**Артыкул 31**

Дзяржавы-ўдзельніцы ствараюць неабходныя ўмовы для забеспячэння канверсоўнасці сваіх валют па бягучых аперацыях з мэтай фарміравання уніфікаванай валютнай сістэмы Саюза з наступным увядзеннем адзінай валюты.

Аб'яднанне грашовых сістэм дзяржаў-удзельніц ажыццяўляецца шляхам фарміравання адзінага эмісійнага цэнтра.

**Артыкул 32**

Дзяржавы-ўдзельніцы могуць перадаваць у карыстанне органам Саюза маёмасць, неабходную для ажыццяўлення ўскладзеных на іх паўнамоцтваў. Гэта маёмасць выкарыстоўваецца выключна ў інтарэсах ажыццяўлення задач Саюза, прадугледжаных гэтым Статутам.

***Глава X***

***Службовыя асобы органаў Саюза і іх апарату***

**Артыкул 33**

1. Службовыя асобы органаў Саюза і іх апарату назначаюцца з грамадзян дзяржаў-удзельніц.

2. Службовыя асобы апарату органаў Саюза:

а) не могуць сумяшчаць работу з іншай аплачваемай дзейнасцю, за выключэннем педагагічнай, навуковай або іншай творчай дзейнасці;

б) не маюць права займацца дзейнасцю, не сумяшчальнай з іх статусам службовых асоб апарату органаў Саюза, і выкарыстоўваць сваё службовае становішча, у прыватнасці, у інтарэсах палітычных партый і аб'яднанняў.

3. Службовыя асобы органаў Саюза і іх апарату пры выкананні сваіх службовых абавязкаў карыстаюцца сацыяльна-бытавым, медыцынскім і транспартным абслугоўваннем у парадку і на ўмовах, устаноўленых заканадаўствам дзяржавы знаходжання для адпаведных груп дзяржаўных пасад.

4. Пенсіённае забеспячэнне службовых асоб, названых у пункце 3, ажыццяўляецца ў парадку і на ўмовах, што вызначаюцца заканадаўствам для дзяржаўных служачых дзяржаў, грамадзянамі якіх яны з'яўляюцца.

***Глава XI***

***Урэгуляванне рознагалоссяў***

**Артыкул 34**

1. Пры ўзнікненні рознагалоссяў па прымяненню або тлумачэнню Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі і гэтага Статута дзяржавы-ўдзельніцы будуць у духу супрацоўніцтва прыкладаць намаганні для іх справядлівага вырашэння пры дапамозе ўзаемных кансультацый і перагавораў.

Дзяржавы-ўдзельніцы будуць імкнуцца прадухіляць магчымыя рознагалоссі праз адпаведныя органы Саюза.

Вышэйшы Савет Саюза правамоцны ажыццяўляць належную пагаджальную працэдуру для ўрэгулявання рознагалоссяў.

2. У выпадку прыняцця дзяржавай-удзельніцай нарматыўнага прававога акта, які парушае гэты Статут або прынятыя ў адпаведнасці з ім нарматыўна-прававыя акты, Вышэйшы Савет і ў межах сваіх паўнамоцтваў Выканаўчы Камітэт звяртаюць увагу дзяржаўных органаў гэтай дзяржавы на такое парушэнне з мэтай яго ліквідацыі.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы заснуюць Суд Саюза.

***Глава XII***

***Выхад з Саюза***

**Артыкул 35**

Дзяржава-ўдзельніца мае права выйсці з Саюза. Аб намеры спынення свайго ўдзелу ў Саюзе яна пісьмова паведамляе Вышэйшаму Савету і другой дзяржаве-ўдзельніцы за 12 месяцаў да выхаду.

Выхад аднаго з удзельнікаў Саюза не ўплывае на выкананне ім абавязацельстваў, што ўзніклі ў перыяд удзелу ў Саюзе, і рэалізацыя якіх абумоўлена пэўным перыядам часу.

***Глава XIII***

***Заключныя палажэнні***

**Артыкул 36**

Папраўкі да гэтага Статута могуць быць прапанаваны дзяржавай-удзельніцай, Вышэйшым Саветам і Парламенцкім Сходам. Праекты рашэнняў па прыняццю папраўак разглядаюцца Вышэйшым Саветам.

Папраўкі падлягаюць ратыфікацыі дзяржавамі-ўдзельніцамі і ўступаюць у сілу з моманту абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

**Артыкул 37**

Для вырашэння прынцыповых пытанняў далейшага развіцця Саюза могуць праводзіцца рэферэндумы ў парадку і ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржаў-удзельніц.

**Артыкул 38**

Рабочай мовай органаў Саюза з'яўляецца руская мова.

**Артыкул 39**

Гэты Статут падлягае ратыфікацыі разам з Дагаворам аб Саюзе Беларусі і Расіі і ўступае ў сілу з моманту абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

Парафіравана ў г.Маскве 2 красавіка 1997 года ў двух экземплярах, кожны на беларускай і рускай мовах.

**За Рэспубліку Беларусь**
**А.Р.ЛУКАШЭНКА**

**За Расійскую Федэрацыю**
**Б.М.ЕЛЬЦЫН.**

